Vol. III
of X

NOV 88
$2.00 US
$2.95 CAN

# V FOR VENDETTA

By Alan Moore
and David Lloyd




Suggested
For Mature
Readers




# V FOR VENDETTA™

By Alan Moore and David Lloyd

Color artists:
Steve Whitaker
Siobhan Dodds
David Lloyd

Lettering:
Jenny O'Connor
Steve Craddock

# V значыць Вендэта

BY COMICS

Пераклад і афармленне
**Алены Васільковай**
(ComicsBY.by)


НОВЫ СКОТЛЭНД-ЯРД.
23 СНЕЖНЯ 1993 ГОДА.
ВОСЬ.


МЫ КРЫХУ ПАЧЫСЦІЛІ РАНУ, АЛЕ ЎСЁ Ж БАЧНА, ШТО КРАІ ІРВАНЫЯ.
ТЫ МАЕШ РАЦЫЮ, ЭРЫК. ГЭТА НЕ НАЖАВОЕ РАНЕННЕ. ЗДАЕЦЦА, СКУРУ З НЕВЕРАГОДНАЙ СІЛАЙ ПРАТЫКНУЛІ ЧЫМСЬЦІ ТУПЫМ.
ХММ.


ШТО Ж, ДЗЯКУЮ ЗА ДАПАМОГУ, ДЭЛІЯ. МЫ З ХЛОПЦАМ БУДЗЕМ УСЮ НОЧ СЯДЗЕЦЬ НАД ГЭТАЙ СПРАВАЙ. ЗАРАЗ ХОЦЬ БУДЗЕ ШТО АБМЕРКАВАЦЬ.
ЗДАЕЦЦА, ТЫ ЗУСІМ НЕ Ў НАСТРОІ І НАВАТ КАЛЯДАМ НЕ РАДЫ. ДАМІНІК КАЗАЎ, ШТО ВЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ РАЗМАЎЛЯЦЬ З ЛЁСАМ?


УГУ. ЛІДАР ПАЦВЕРДЗІЎ ДАДАТКОВЫ СЕАНС. ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ, ШТО ЎСЁ ДРЭННА. ЗВЫЧАЙНА ЁН НЕ ЛЮБІЦЬ, КАЛІ ІНШЫЯ ПРАЦУЮЦЬ З ЛЁСАМ...


ДАРЭЧЫ, ДЭЛІЯ, ПАКУЛЬ НЕ ЗАБЫЎСЯ.


НІЧОГА НЕ МОЖАШ РАСПАВЕСЦІ НАКОНТ ГЭТАГА? ГЭТА ЎЖО ДРУГАЯ. ПЕРШАЯ БЫЛА Ў КУПЭ, АДКУЛЬ ВЫКРАЛІ ПРАТЭРА...
ГЭТА "ВАЯЛЕТ КАРСАН". КАЖУЦЬ, ШТО ГЭТЫ СОРТ БЫЎ ЗГУБЛЕНЫ ПАД ЧАС ВАЙНЫ. ЦІ НЕ МАГЛА Б ТЫ ПАРАІЦЦА З БАТАНІКАМІ...
А ГЭТА-У ПАКОІ ЕПІСКАПА.


Я... ТАК, ТАК, ВЯДОМА. Я ЎЖО СЫХОДЖУ, АЛЕ...
Я МАГЛА Б УЗЯЦЬ ЯЕ ДАДОМУ.
ЦУДОЎНА. ДОБРА, ДЭЛІЯ, ПАБАЧЫМСЯ ЗАЎТРА. БЫВАЙ.


БЫВАЙ.


ГАЛЕРЭЯ ЦЕНЯЎ.
ГЭТА ДРЭННА, V.
Глава 9
Vечар


ЗАРАЗ Я САЎДЗЕЛЬНІЦА, ТЫ МЯНЕ Ў ГЭТА УЦЯГНУЎ!
Я ДУМАЛА, ШТО ТЫ НЕ ЗБІРАЕШСЯ ЗАБІЦЬ ЯГО!


ЗАБІВАЦЬ ДРЭННА.
ХІБА НЕ?


А ЧАМУ ТЫ ПЫТАЕШСЯ?
І ДАРЭЧЫ НАКОНТ ТАГО, ШТО Я ЦЯБЕ ЎЦЯГНУЎ... ХІБА ТЫ НЕ ВЕЛЬМІ ЖАДАЛА ЗАКЛЮЧЫЦЬ ПАГАДНЕННЕ?


Я НЕ ВЕДАЛА, ШТО ТЫ ЗБІРАЕШСЯ РАБІЦЬ...
ГЭТА Ж ТЫ...
БОЖА, V...




V.
THOMAS PYNCHON


"V- У ЁЙ І ЗА ЁЙ КРЫЕЦЦА БОЛЬШ, ЧЫМ ЛЮБЫ З НАС МОЖА ПАДАЗРАВАЦЬ. НЕ ХТО ЯНА, АЛЕ ШТО - ШТО ЯНА ТАКОЕ".
ТЫ ДАВЕДАЕШСЯ, ІВІ.


ТЫ ДАВЕДАЕШСЯ.


НАЙТСБРЫДЖ. МІСТЭР І МІСІС ОЛМАНД.
ДЭРЭК?


НЕ ЖАДАЮ ГЭТА АБМЯРКОЎВАЦЬ, РОЗМАРЫ.


ДЭРЭК...
ПАКІНЬ ГЭТА.


ТАК НЕЛЬГА!
ДЭРЭК, МЫ НЕ МОЖАМ ДАЛЕЙ ГУЛЯЦЬ У МАЎЧАНКУ...
ТЫ НЕ РАЗМАЎЛЯЕШ СА МНОЮ, НЕ ЯСІ, НЕ СПІШ СА МНОЮ...




А ТАК СЛУХАЙ! З МЯНЕ ХОПІЦЬ ТВАЙГО ЛАЙНА! ХОПІЦЬ!
ТАЎСТЫ ВЫБЛЯДАК ЦЭЛЫ ДЗЕНЬ ДЗЯЎБАЕ МНЕ МАЗГІ З-ЗА ТЭРАРЫСТА, ТАК ЯШЧЭ...
ЫЫІІ...
ЫЫІІ...


РОЗМАРЫ? ЦІ ПРЫКРЫЕШ ТЫ ЗЯПУ ЦІ НЕ?


КАЛІ МЫ НЕ СПІМ РАЗАМ ЯК РАНЕЙ,ТО Я ТУТ НІ ПРЫ ЧЫМ.
ПАСПРАБУЙ ВЫГЛЯДАЦЬ ПААПЕТЫТНЕЙ.
ОХ, ІДЗІ АДСЮЛЬ.


ПАДНІМУСЯ ПАЗНЕЙ.
Я ПІСТАЛЕТ ПРАЧЫШЧАЮ.


ГАЛЕРЭЯ ЦЕНЯЎ.








V...
ПРАБАЧ. Я СПРАБАВАЛА АДЫЙСЦІ АД ПАЧУЦЦЯ ВІНЫ.
Я НЕ МАЮ РАЦЫЮ. Я НЕ СТАНУ БОЛЕЙ ЗАБІВАЦЬ...


НАВАТ ДЛЯ ЦЯБЕ.
НІКОЛІ.






ГАЛЕРЭЯ ЦЕНЯЎ.
"ДАВАЙЦЕ ПАБУДУЕМ ВЯЛІЧЭЗНЫ ЗАМАК! – ЗАКРЫЧАЎ ЛУНАЛІЧКА. КАЛІ МОРА НАВАЛІЦЦА, МЫ ЎСЕ ЗМОЖАМ ЗАБРАЦЦА НА ДАХ".
"МЫ НЕ МОЖАМ, – АДКАЗАЛА СІЛКІ, АДРАЗУ ЗАСАМОЦІЎШЫСЯ. А ЧАМУ? ЧАМУ? – ЗДЗІЎЛЕНА ЗАЛЯМАНТАВАЎ ДЖО. – ГЭТА Ж КРАІНА РАБІ-ЯК-ПАЖАДАЕШ".

"ТАК, – КАЗАЛА СІЛКІ, – АЛЕ ЎЖО ТРЭБА ВЯРТАЦЦА ДА ДРЭВА РАЗВІТАННЯ. КРАІНА ХУТКА ПОЙДЗЕ ДАЛЕЙ, І ЯК ТУТ НІ БЫЛО Б ВЕСЕЛА, МЫ Ж НЕ ПАЖАДАЕМ ЗАСТАЦЦА ТУТ НАЗАЎСЁДЫ ".
"НЕ, ДЗЯКУЙ, – АДКАЗАЎ ДЖО. – ЯК ТАМ БУДУЦЬ БЕЗ НАС МАМА І ТАТА?"

MAGIC FARAWAY TREE



НОС.

... ПАЎТАРЫ ЯШЧЭ РАЗ, ДАМІНІК. ТЫ ПРАВЕРЫЎ НУМАРЫ І ВЫСВЕТЛІЛАСЯ...

... ВЫСВЕТЛІЛАСЯ, ШТО РЫМСКІМІ ЛІЧБАМІ КАМЕРЫ НУМАРАВАЛІ ТОЛЬКІ Ў ЛАГЕРАХ ДЛЯ ПЕРАМЕШЧАНЫХ АСОБ.

ВЫ Ж КАЗАЛІ, ШТО КЛЮЧ ДА АДГАДКІ – ЛІТАРА "V", А Л'ЮІС ПРАТЭРА УВЕСЬ ЧАС КАЖА ПРА ПЯТЫ НУМАР. АЛЕ "V" – ГЭТА РЫМСКАЯ ЛІЧБА 5, ЗНАЧЫЦЬ....

ДАРЭЧЫ, ГЭТА ТОЛЬКІ ЗДАГАДКА. МАЖЛІВА Ў ЁЙ НЯМА НІЯКАГА СЭНСУ.

ГЭТА ЦУДОЎНА, ДАМІНІК! ЦУДОЎНА!

ДОБРА, ШТО ТУТ У НАС... ПАГЛЯДЗІМ, ЦІ НЕ МЕЛІ НАШЫ АХВЯРЫ ДАЧЫНЕННЯ ДА ЛАГЕРАЎ... ХВІЛІНАЧКУ... ВОСЬ!

ЛІЛІМЭН?

БІСКУП. БОЖУХНА, ХЛОПЧА, ТЫ ЗНАЙШОЎ ЗА ШТО УЧАПІЦЦА. ВЯДОМА ГЭТА МОЖА БЫЦЬ І СУПАДЗЕННЕМ, АЛЕ НІЧОГА ЛЕПШ У НАС НЯМА.

ПРАТЭРА ТАКСАМА БЫЎ У ЛАРКХІЛЫ.

У ЛАГЕРЫ НАПЭЎНА ПРАЦАВАЛІ ДЗЯСЯТКІ ЛЮДЗЕЙ. МЫ МОЖАМ ДАПЫТАЦЬ ІХ УСІХ І ПАГЛЯДЗЕЦЬ, ШТО ЯШЧЭ ЎСПЛЫВЕ. ЛЁС ДАСЦЬ НАМ СПІС ІМЁНАЎ.

ВО ХАЛЕРА...

ЗАГІНУЎ... ЗАГІНУЎ... ЗАГІНУЎ... ЯНЫ МЁРТВЫЯ, ДАМІНІК. УСЕ МЁРТВЫЯ.


ПЛЭЙСТОЎ.






FNFF
FNFF


РУЖЫ.
ГЭТА ВЫ, ТАК? ВЫ ПРЫЙШЛІ...


ВЫ ПРЫЙШЛІ ЗАБІЦЬ МЯНЕ.


ТАК.


О ДЗЯКУЙ БОГУ!


ДЗЯКУЙ БОГУ...




23 СНЕЖНЯ 1997 ГОДУ. НАЙТСБРЫДЖ.
МІСТЭР І МІСІС ОЛМАНД.


ДЭРЭК?
ШТО...




ДЭРЭК?
ДЭРЭК, НЕ ТРЭБА...




БАБАХ!


НЕ ПАЛОХАЙСЯ, РОЗ.
Я ЯГО НЕ ЗАРАДЗІЎ.


БЫВАЙ.
Глава 10
Vекар


НОС. НОВЫ СКОТЛЭНД-ЯРД.
МІСТЭР ФІНЧ І ДАМІНІК.
КУІН, ЭНДРУ ІМАН. ЗАГІНУЎ 23.12.93. СПРАВА ЗАКРЫТА. РОЎЗ УІЛЬЯМ. ЗАГІНУЎ 18.07.97.СПРАВА ЗАКРЫТА. РАПІТ, ПІТЭР КЕВІН. ЗАГІНУЎ 05.11.94...


СПРАВА ЗАКРЫТА. ЁН ЗАБІЎ ІХ, ДАМІНІК. УСЕХ, ХТО ПРАЦАВАЎ У ЛАРКХІЛЕ, АДНАГО ЗА ДРУГІМ. ЗА АПОШНІЯ ЧАТЫРЫ ГАДЫ.
ЁН ЗАБІЎ ШМАТ НАРОДУ.


АЛЕ ХІБА МОЖНА БЫЦЬ УПЭЎНЕНЫМ? НЕКАТОРЫЯ МАГЛІ ЗАГІНУЦЬ АД НЯШЧАСНАГА ВЫПАДКУ... ЦІ ПРОСТА ПАМЁРЛІ, ТАМУ ШТО ЧАС ПРЫЙШОЎ.
ЦІ СМЕРЦЮ, ЯКАЯ БЫЛА ВЕЛЬМІ ПАДОБНАЙ ДА НАТУРАЛЬНАЙ... БОЖУХНА, ДАМІНІК, ТЫ ТОЛЬКІ ПАГЛЯДЗІ! УСЁ БЫЛО НЕ ТАК...


МЫ ДУМАЛІ, ЁН З'ЯВІЎСЯ ПАРУ МЕСЯЦАЎ ТАМУ, ЯК ГРОМ СЯРОД ЯСНАГА НЕБА.
А ЁН УВЕСЬ ГЭТЫ ЧАС... БОЖА, КОЛЬКІ ЛЮДЗЕЙ. ГЭТА ЖАХЛІВА. ГЭТА ЎВАСАБЛЕННЕ ЗЛА.


ГЭТА СПІС УСІХ СУПРАЦОЎНІКАЎ З ЛАРКХІЛА. А СУПРАЦОЎНІЦЫ ТАМ БЫЛІ?
НЕ ВЕДАЮ. ПРАВЕР ПРАЗ ЛЁС.


ЁН БЫЎ У ЛАРКХІЛЕ. ГЭТА ЗРАЗУМЕЛА. ЗАРАЗ УСЕ, ХТО МОГ НАМ РАСПАВЕСЦІ...
БОЖА МОЙ... МІСТЭР ФІНЧ, ПАГЛЯДЗІЦЕ...


ДЭЛІЯ. Я Ж РАЗМАЎЛЯЎ З ЁЮ ПАРУ ГАДЗІН ТАМУ. ДАЎ ЁЙ РУЖУ, КАБ ЯНА...
REC/BLK SIZE S 80/720
PACK/V1 ON DSK
BEGIN:
RESTRICTED ACCESS - CODE 002
C666 SURRIDGE, DR. DELIA ANNE...LARKHILL RESETTLEMENT CAMP (1992-1993)
667: CURRENT EMPLOYMENT..........PATHOLOGIST
668. (SEE DEPT. OF INVESTIGATIONS AA/1855/92/2)
END


ТЭЛЕФАНУЙ ЁЙ ТЭРМІНОВА, ДАМІНІК, А ПОТЫМ АДРАЗУ ОЛМАНДУ.
Я СПРАБУЮ. У ЯЕ ЗАНЯТА.


ДОБРА. УСЁ РОЎНА ТЭЛЕФАНУЙ ОЛМАНДУ. ГЭТАК ЗВАНЫ V ПАМЫЛІЎСЯ Ў ПЕРШЫ І АПОШНІ РАЗ. ЁН НЕ ВЕДАЕ, ШТО ТЫ ВЫКРЫЎ ЯГО СУВЯЗЬ З ЛАРКХІЛАМ ДА ТАГО, ЯК ЁН ДАБРАЎСЯ ДА ДЭЛІІ.
НА ГЭТЫ РАЗ МЫ БУДЗЕМ ПАДРЫХТАВАНЫЯ.


ПЛЭЙСТОЎ. ВРАЧ ДЭЛІЯ САРЫДЖ.
ВЫ БАІЦЕСЯ?


НЕ.
НЕ, ДУМАЛА, ШТО БУДУ БАЯЦЦА. АЛЕ НЕ БАЮСЯ. МНЕ СТАЛА ЛЯГЧЭЙ. БОЖА, КОЛЬКІ ГАДОЎ Я ВАС ЧАКАЛА...
Я ЗАЎСЁДЫ ВЕДАЛА, ШТО ВЫ ІЗНОЎ ПРЫЙДЗЕЦЕ.


КАЛІ Я Ў ТУ НОЧ ПАБАЧЫЛА ВАС... У НОЧ ВАШЫХ УЦЁКАЎ. ВЫ СТАЯЛІ НА ФОНЕ ПОЛЫМЯ. А ПОТЫМ ПАВЯРНУЛІСЯ І ПАГЛЯДЗЕЛІ НА МЯНЕ.
Я ЗРАЗУМЕЛА, ШТО ВЫ БУДЗЕЦЕ ШУКАЦЬ МЯНЕ І ЗНОЙДЗЕЦЕ.


ТО... ТО, ШТО МЫ РАБІЛІ... ТО, ШТО Я РАБІЛА Ў ЛАРКХІЛЕ... Я ДОЎГА МУЧЫЛАСЯ АД ЖАХЛІВАГА РАЗУМЕННЯ, ШТО Я ЗДОЛЬНАЯ РАБІЦЬ ТАКОЕ...
КАЛІСЬЦІ Я ЧУЛА ПРА АДЗІН ЭКСПЕРЫМЕНТ АМЕРЫКАНЦАЎ. ДАБРААХВОТНІКАЎ ПРАСІЛІ ЎСТАЦЬ ДА ПУЛЬТА ГЕНЕРАТАРА ЭЛЕКТРАТОКУ. ІМ КАЗАЛІ, ШТО ПРАВАДЫ БЫЛІ ДАЛУЧАНЫ ДА ПАЦЫЕНТА Ў СУСЕДНІМ ПАКОІ.


НАСАМРЭЧ ТАМ БЫЎ АКТОР, ГОЛАС ЯКОГА БЫЎ ЧУТНЫ ПРАЗ ПРЫЛАДУ ДЛЯ РАЗМОЎ. ВРАЧ ПРАСІЎ ДАБРААХВОТНІКАЎ УКЛЮЧЫЦЬ ТОК.
ІМ ЗАГАДВАЛІ ПАСТУПОВА ПАВЯЛІЧВАЦЬ НАПРУГУ. "АХВЯРА" МАЛІЛА СПЫНІЦЬ. ІМ ЗАГАДВАЛІ НЕ СПЫНЯЦЦА. ТАДЫ "АХВЯРА" ПАЧЫНАЛА КРЫЧАЦЬ.


ПОТЫМ КРЫКІ ЗМАЎКАЛІ, СТАНАВІЛАСЯ ЦІХА. А ДАБРААХВОТНІКАМ ІЗНОЎ ЗАГАДВАЛІ ПАВЫСІЦЬ НАПРУГУ.
АМАЛЬ 80 АДСОТКАЎ ДАБРААХВОТНІКАЎ ПРАЦЯГВАЛІ ДАВАЦЬ РАЗРАД ПАСЛЯ ТАГО, ЯК АХВЯРА ПАПРАСІЛА СПЫНІЦЦА. 60 АДСОТКАЎ ПАВЫШАЛІ НАПРУГУ НАВАТ КАЛІ ЛІЧЫЛІ, ШТО ПАЦЫЭНТ ПАМЁР.


ГЭТА БЫЛІ ЗВЫЧАЙНЫЯ ЛЮДЗІ, І ЯНЫ БЫЛІ ГАТОВЫ КАТАВАЦЬ НЕЗНАЁМАГА ЧАЛАВЕКА ТОЛЬКІ ТАМУ, ШТО ІМ ТАК ЗАГАДВАЛІ.
НЕКАТОРЫМ З ІХ ГЭТА НАВАТ ПАДАБАЛАСЯ. МНЕ ТАКСАМА ПАДАБАЛАСЯ ТОЕ, ШТО Я РАБІЛА Ў ЛАРКХІЛЕ. ЛЮДЗІ ГЛУПЫЯ І ЗЛЫЯ. З НАМІ ШТОСЬЦІ НЕ ТАК.
НЕЙКІЯ ЖАХЛІВЫЕ АДХІЛЕННІ...


МЫ ЎСЁ ГЭТА ЗАСЛУЖЫЛІ...
ЗАСЛУЖЫЛІ...


НАЙТСБРЫДЖ.
АЛЁ? ТАК. ОЛМАНД СЛУХАЕ.
ТАК.
ЯКІМ ЧЫНАМ?


ПАЧАКАЙЦЕ. ВЫ ПРА ДЭЛІЮ САРЫДЖ? ПРА ЎРАЧА?
АЛЕ ЯКОЕ ДАЧЫНЕННЕ ЯНА МАЕ ДА... НЕ.
НЕ, НЕ, ДОБРА. ПАЗНЕЙ. АГА.


ТАК, Я ВЕДАЮ ЯЕ АДРАС У ПЛЭЙСТОЎ.
ТАК. ПАТЭЛЕФАНУЙЦЕ ЎНІЗ І ЗАГАДАЙЦЕ ІМ ТЭРМІНОВА АДПРАВІЦЬ ГРУПУ ЗАХОПУ.
ТАК, Я ЎЖО ЕДУ. БЫВАЙ.










ДЗІЎНА.


СЁННЯ МНЕ ПЕРАДАЛІ АДНУ З ВАШЫХ РУЖ. ЭРЫК ФІНЧ ПЕРАДАЎ. ЁН З НОСУ. АДДЗЕЛ РАССЛЕДВАННЯЎ ШУКАЕ ВАС.
Я НЕ БЫЛА ЎПЭЎНЕНА, ШТО ТЭРАРЫСТ - ГЭТА ВЫ, ПАКУЛЬ НЕ ПАБАЧЫЛА ГЭТУ РУЖУ. ДЗІЎНАЕ СУПАДЗЕННЕ, ШТО МНЕ АДДАЛІ ЯЕ МЕНАВІТА СЁННЯ.


ГЭТА НЕ СУПАДЗЕННЕ, ДЭЛІЯ. ТОЛЬКІ ІЛЮЗІЯ СУПАДЗЕННЯ. У МЯНЕ ЁСЦЬ ЯШЧЭ АДНА...
...І ЯНА ДЛЯ ВАС.


...

ВЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ ЗАБІЦЬ МЯНЕ.

Я ЗАБІЎ ВАС ДЗЕСЯЦЬ ХВІЛІН ТАМУ, КАЛІ ВЫ СПАЛІ.

МНЕ БУДЗЕ БАЛЮЧА?

НЕ. БОЛЮ НЕ БУДЗЕ.
ДОБРА. ГЭТА ДОБРА.
А МОЖНА...

МОЖНА МНЕ ЯШЧЭ РАЗ ПАБАЧЫЦЬ ВАШ ТВАР?


ЯКАЯ ПРЫГАЖОСЦЬ.







НІ З МЕСЦА, КУРВА.

НЕ ЧУЎ, ЯК Я ЎВАЙШОЎ, ТАК? НЕ ДУМАЎ, ШТО ВЫСАЧЫМ ЦЯБЕ?
УСЁ СКОНЧАНА, ДРУЖА. ЗАСЛОНА.

СТАРЫ КАЗАЎ, ШТО У КАГОСЬЦІ ПАЛЯЦІЦЬ ГАЛАВА. ПЫТАННЕ ТОЛЬКІ - ТВАЯ ЦІ МАЯ. ДЫК ВОСЬ - ГАЛАВА БУДЗЕ ТВАЯ.
ТАМУ ШТО ТЫ ЗАХРАСНУЎ З НАЖАМІ І З БЛАЗАНСКІМ КАРАТЭ...

А Ў МЯНЕ ПУШКА.





КАНУН РАСТВА. 1997. 00.04




МІСТЭР ФІНЧ. М-М... ДА МІСІС ОЛМАНД УЖО АДПРАВІЛІ.
СЭР, Я МАГУ НЕЯК...




ЁН ЗАПЛАЦІЦЬ ЗА ГЭТА, ДАМІНІК. ПЕРСАНАЛЬНА МНЕ.
ЯНА БЫЛА ДОБРАЙ ЖАНЧЫНАЙ. ШМАТ ГАДОЎ ПРАЦАВАЛА ЎРАЧОМ, ПАКУЛЬ ЯЕ НЕ ПЕРАВЕЛІ Ў ПАТАЛАГААНАТАМЫ. КЛАПАЦІЛАСЯ ПРА ЛЮДЗЕЙ.
Я ПАМЯТАЮ, ЯК ЯНА ЛЯЧЫЛА ДЗЯЦЕЙ, ЯКІЯ...
БОГАМ КЛЯНУСЯ, ЁН МНЕ ЗАПЛАЦІЦЬ.






МЫ ЗНАЙШЛІ ГЭТА НА КАМОДЗЕ, СЭР. ГЭТА ДЗЁННІК ЛЕКАРА САРЫДЖ. ТАМ ЁСЦЬ ПРА ТОЕ, ЯК ЯНА ПРАЦАВАЛА Ў ЛАРКХІЛЕ. МАЖЛІВА, МЫ ДАВЕДАЕМСЯ БОЛЬШ ПАДРАБЯЗНАСЦЯЎ...
МЯНЕ ВАНІТУЕ АД ПАДРАБЯЗНАСЦЕЙ, ДАМІНІК. МЯНЕ ВАНІТУЕ АД ФАКТАЎ, УЛІК ДЫ ТРУПАЎ. Я ЗАНАДТА СТАРЫ.
Я ЗАНАДТА СТОМЛЕНЫ.










24 СНЕЖНЯ 1997, 22.57.
МІСТЭР ФІНЧ ДАКЛАДВАЕ.

ГЭТА ВЕНДЭТА, ЛІДЭР.

# Глава 11
# Віхура

УЧОРА ПРЫБЛІЗНА Ў ДЗЕСЯЦЬ ГАДЗІН ВЕЧАРА ГЭТАК ЗВАНЫ V ПРАКРАЎСЯ Ў ДОМ ПАТОЛАГААНАТАМА ДЭЛІІ САРЫДЖ І ЗРАБІЎ ЁЙ ІН'ЕКЦЫЮ НЕЎСТАЛЯВАНАГА АТРУТНАГА ПРЭПАРАТА. ВРАЧ САРЫДЖ ЗАГІНУЛА.

МАЖЛІВА, ШТО КАЛІ ЁН РАБІЎ УКОЛ, ЯНА СПАЛА. МЫ НЕ ВЫЯВІЛІ НІЯКІХ СЛЯДОЎ БАРАЦЬБЫ.

ГЭТАК ЗВАНЫ V НЕ ПАСПЕЎ ПАКІНУЦЬ БУДЫНАК, ТАМУ ШТО Ў ГЭТЫ ЧАС ТУДЫ ПРЫЕХАЎ МІСТЭР ОЛМАНД. ЁН БЫЎ З РЭВАЛЬВЕРАМ.

ВІДАВОЧНА ЁН НЕ ПАСПЕЎ ЗАРАДЗІЦЬ ЗБРОЮ, ТАМУ ШТО ГЭТАК ЗВАНЫ V СТУКНУЎ МІСТЭРА ОЛМАНДА ВОСТРЫМ КІНЖАЛАМ.

МІСТЭР ОЛМАНД ТАКСАМА ЗАГІНУЎ.

МІСТЭР ОЛМАНД НАКІРОЎВАЎСЯ ДА ЛЕКАРА, КАБ ПАПЯРЭДЗІЦЬ ЯЕ АБ ТЫМ, ШТО ДЭПАРТАМЕНТУ АТРЫМАЛАСЯ ВЫЯВІЦЬ СУВЯЗЬ ПАМІЖ ВЫКРАДАННЕМ Л'ЮІСА ПРАТЭРА І ЗАБОЙСТВАМ БІСКУПА ЛІЛІМЭНА.

ЯНЫ АБОДВА ПРАЦАВАЛІ Ў ЛАГЕРЫ ПЕРАМЕШЧАНЫХ АСОБ ЛАКРХІЛ З 1992 ПА 1993 ГОД, ЯК І ЛЕКАР САРЫДЖ. МЫ СПРАБАВАЛІ ПАПЯРЭДЗІЦЬ ЯЕ.

МЫ СПАЗНІЛІСЯ.

АЛЕ МЫ ЗНАЙШЛІ АСАБІСТЫ ДЗЁННІК ЛЕКАРА САРЫДЖ. ДЗЁННІК АХАПЛЯЕ ПЯЦЬ ГАДОЎ, У НЁМ ПАДРАБЯЗНА АПІСАНЫ ГОДЫ ЯЕ ПРАЦЫ Ў ЛАГЕРЫ. З РАНКУ Я ПРАЧЫТАЎ ЯГО ЎЖО СЕМ РАЗ.

І НАВАТ ЗАРАЗ Я НЕ ВЕДАЮ, ХТО ТАКІ V.

АЛЕ МНЕ ЗДАЕЦЦА, Я ВЕДАЮ, ШТО ЁН ТАКОЕ.


Я ВЫПІСАЎ З ДЗЁННІКА КЛЮЧАВЫЯ МОМАНТЫ, СУПАСТАВІЎ З ДАННЫМІ, ЯКІЯ Я МАЮ І ЎСЁ УПАРАДКАВАЎ. У ВЫНІКУ АТРЫМАЛАСЯ НЕВЕРАГОДНАЯ ГІСТОРЫЯ...
ПЕРВЫ ЗАПІС У ДЗЁННІКУ – 30 КРАСАВІКА 1993 ГОДА. Я ПРАЧЫТАЮ.


РАНКАМ Я ПРЫЕХАЛА Ў ЛАРКХІЛ. КІРОЎЦУ КЛІКАЛІ ГОСЛІНГ. ЗА ЎВЕСЬ ЧАС ЁН НЕ ВЫМАВІЎ НІ СЛОВА.
БОЖА, ЯКОЕ МАРКОТНАЕ МЕСЦА!


Я ПРАДСТАВІЛАСЯ ШЭФУ ЛАГЕРА ПРАТЭРА; ЁН ЗДАЎСЯ МНЕ ВЕЛЬМІ НЕПРЫЕМНЫМ ЧАЛАВЕКАМ. ЁН АБЯЦАЎ МНЕ ПАКАЗАЦЬ ПАДДОСЛЕДНЫХ, ЯК ТОЛЬКІ Я УЛАДКУЮСЯ; ЁН ВЫКАНАЎ АБЯЦАННЕ ПАСЛЯ АБЕДУ.
ЖАЛАСНАЕ ВІДОВІШЧА. ПРАТЭРА КАЗАЎ, ШТО ЯНЫ ВЯДУЦЬ ПАСКУДНЫ ЛАД ЖЫЦЦЯ. КАЛІ Я НЕ ВАЗЬМУСЯ ЗА СПРАВУ НЕАДКЛАДНА, ТО НІЯКАЙ КАРЫСЦІ АД ІХ НЕ БУДЗЕ.


17 МАЯ. АМАЛЬ СКОНЧЫЛА ЧАРНАВЫ ВАРЫЯНТ ПРАЭКТУ. ПАКУЛЬ Я НАСТРОЕНА ВЕЛЬМІ АПТЫМІСТЫЧНА.
ДАСЛЕДВАЦЬ ГАРМАНАЛЬНЫЯ ЗМЕНЫ НА ПАЦУКАХ ДЫ ТРУСАХ БЕССЭНСОЎНА, ТАК ШТО У МЯНЕ ЁСЦЬ УНІКАЛЬНАЯ МАГЧЫМАСЦЬ . КАЛІ ЎСЁ БУДЗЕ ДОБРА, ПАЧНУ НА НАСТУПНЫМ ТЫДНІ.


23 МАЯ. ПРАТЭРА АДАБРАЎ ДЛЯ МЯНЕ 48 АСОБІН. ВЕЧАРАМ Я ІХ АГЛЕДЗЕЛА. ТАКІЯ СЛАБЫЯ І ЖАЛАСНЫЯ, ШТО ХОЧАШ – НЕ ХОЧАШ, АЛЕ ПАЧЫНАЕШ ІХ НЕНАВІДЗЕЦЬ.
НІЯКАЙ ЦЯГІ ДА ЖЫЦЦЯ. ТОЛЬКІ І МОГУЦЬ, ШТО ВЫГЛЯДАЦЬ НЯШЧАСНЫМІ. ТОЛЬКІ АД АДНАГО ІХ ВІДУ СТАНОВІЦЦА НЕЯК ДУРНАВАТА. ЦЯЖКА ІХ ЛІЧЫЦЬ НАВАТ ЛЮДЗЬМІ.


5 ЧЭРВЕНЯ. СПРАВА ЗРОБЛЕНА. УСЕ 48 АТРЫМАЛІ ІН'ЕКЦЫЮ "РЭЧЫВА #5" –СУМЕСЬ ПІТУАРЫНА І ПАЙНЕАРЫНА. БУДЗЕМ ЧАКАЦЬ ВЫНІКАЎ.
МЯСЦОВЫ БІСКУП ТОНІ ЛІЛІМЭН ПАТРАБАВАЎ, КАБ ЁН МОГ ПРЫСУТНІЧАЦЬ НА ЭКСПЕРЫМЕНЦЕ І МАРАЛЬНА ПАДТРЫМЛІВАЦЬ. ЁН УВЕСЬ ЧАС ПАЦІРАЕ ПОТНЫЯ РУКІ І ГЛЯДЗІЦЬ НА МАЕ ГРУДЗІ. НЕНАВІДЖУ ЯГО.


9 ЧЭРВЕНЯ.
З 48 ПАДДОСЛЕДНЫХ АМАЛЬ 75 АДСОТКАЎ УЖО ЗАГІНУЛІ.


НЕ ДУМАЮ, ШТО ТРОЕ З ДЗЕСЯЦІ ДАЖЫВУЦЬ ДА РАНКУ. АСАБЛІВА ДРЭННА ДОНАЛЬДУ КРЭЙНУ, ЧОРНАМУ.
У ТРЫЗНЕННІ ЁН УЯЎЛЯЕ, ШТО ЗНАХОДЗІЦЦА Ў ТРЭНЧТАЎНЕ, НА ЯМАЙЦЫ. У НЯГО ЎТВАРЫЛАСЯ ЧАТЫРЫ ДАДАТКОВЫХ САСКА, А ДЗІЦЯНАРАДЖАЛЬНЫЯ ОРГАНЫ АТРАФАВАЛІСЯ.


ЯК НІ ДЗІЎНА, АЛЕ НЯМА НІЯКІХ ЗАКАНАМЕРНАСЦЯЎ. ГРУПА ХУТКА СКАРАЧАЕЦЦА. АДНО ЗРАЗУМЕЛА– У ЖАНЧЫН СУПРАЦІЎЛЯЛЬНАСЦЬ КРЫХУ ВЫШЭЙ, ЧЫМ У МУЖЧЫН. АСАБЛІВА Ў НЕГРЫЦЯНАК.
РЫТА БОЙД, ЛЕСБІЯНКА, ПАМЁРАЛ СЕННЯ ПАСЛЯ АБЕДУ. ПАД ЧАС АЎТОПСІІ БЫЛІ ВЫЯЎЛЕНЫ ЧАТЫРЫ ДАДАТКОВЫХ ПАЛЬЦЫ, ЯКІЯ ПАЧАЛІ ФАРМІРАВАЦЦА НА ЯЁ ГАЛЁНКІ.


18 ЧЭРВЕНЯ. ЗАСТАЛОСЯ ТОЛЬКІ ПЯЦЁРА. 2 МУЖЧЫНЫ І 3 ЖАНЧЫНЫ, ШТО ПАЦЦВЯРДЖАЕ ЗДАГАДКУ АД 9 ЧЭРВЕНЯ. ЯНЫ РАЗМЕШЧАНЫ Ў ІЗАЛЯТАРАХ МЕДЫЦЫНСКАГА БЛОКУ.
У КАМЕРЫ #5 ВЕЛЬМІ ЦІКАВАЯ АСОБІНА.


МЯРКУЮЧЫ ПА ЎСІМ ПАКАЗЧЫКАМ, ФІЗІЧНА ЁН ЗДАРОВЫ. НІЯКІХ КЛЕТКАВЫХ АНАМАЛІЙ, НІЧОГА.
АЛЕ ЁН ЗУСІМ ЗВАР'ЯЦЕЎ. ВІДАВОЧНА РЭЧЫВА#5 ВЫКЛІКАЕ ЗМЕНЫ Ў ПСІХІЦЫ.


ПАРАДАКСАЛЬНА, АЛЕ Ў ЯГО РАЗВІЎСЯ ПАБОЧНЫ ЭФЕКТ, ХАРАКТЭРНЫ ДЛЯ ХВОРЫХ НА ШЫЗАФРЭНІЮ:
ЁН СТАЎ ВЕЛЬМІ ПРЫЦЯГАЛЬНЫ. МАЛА РАЗМАЎЛЯЕ, АЛЕ ЯКІ Ў ЯГО ПОЗІРК...


СЁННЯ ЁН ПАГЛЯДЗЕЎ НА МЯНЕ, БЫЦЦАМ Я КАЗЯЎКА. ГЛЯДЗЕЎ НА МЯНЕ ТАК, БЫЦЦАМ ЯМУ ШКАДА.
ФІЗІЯНОМІЯ Ў ЯГО БРЫДКАЯ. ДУМАЮ ПРА ЯЕ ЎЖО ЦЭЛЫ ВЕЧАР.


ДУМАЮ, ЦІКАВЕЙ ЗА ЎСЁ ЯГО ПАВОДНІЦКІЯ МАДЭЛІ. ЯНЫ ЦАЛКАМ ІРАЦЫЯНАЛЬНЫЯ, І Ў ТОЙ ЖА ЧАС ЯНЫ ПАДПАРАДКОЎВАЮЦЦА НЕЙКАЙ УНУТРАНАЙ ЛОГІЦЫ.
ЗДАЕЦЦА, ШТО ХТОСЬЦІ Ў ПАРТЫІ ЖАДАЕ ЗАЧЫНІЦЬ ПРАЭКТ ЯШЧЭ ДА ТАГО, ЯК БУДУЦЬ НЕЙКІЯ ВЫНІКІ. ПРАТЭРА ПРАГАВАРЫЎСЯ. ПАГЛЯДЗІМ.


СЁННЯ ПАМЁР ПАТАЛ, АЗІЯТ З КАМЕРЫ #3. АДМАЎЛЕННЕ ПЕЧАНІ. Я ТАК І НЕ ПАСПЕЛА ПРАВЕСЦІ АЎТОПСІЮ І ВЫЯВІЦЬ ПРЫЧЫНУ.
ЗДАЕЦЦА, Я ПРАВОДЖУ ШМАТ ЧАСУ Ў КАМЕРЫ #5.


ДОБРА, ШТО МЫ ДАЗВОЛІЛІ ЯМУ ЗАЙМАЦЦА САДАМ. ПРАТЭРА СПАЧАТКУ СУМНЯВАЎСЯ. АЛЕ ПОТЫМ АДСТУПІЎ. ЕЖЫ СТАЛА БОЛЬШ.
ЦЯПЕР ЁН У ЗАХАПЛЕННІ, ТЛУСТАЯ ЖАБА. ВЫЯВІЛАСЯ, ШТО АСОБІНА #5 - ВЫДАТНЫ САДОЎНІК.
ЁН ПАЗБАВІЎСЯ АД БЕЛАКРЫЛКІ, І ЧАКАЕЦЦА НЕБЛАГІ УРАДЖАЙ.


7 ЖНІЎНЯ. ЎРАДЖАІ ВЫРАСЛІ Ў ДВА РАЗЫ. НУМАР 5 ДАМОГСЯ Ў ПРАТЭРА ДАЗВОЛУ ЗАМАЎЛЯЦЬ УГНАЕННІ, ЯМУ НАВАТ АДДЗЯЛІЛІ МЕСЦА ПАД КВЕТНІК.
ЁН ВЫРОШЧВАЕ РУЖЫ, ВЕЛЬМІ ПРЫГОЖЫЯ. ЖАНЧЫНА З КАМЕРЫ 1 ПАМЁРЛА СЁННЯ РАНКАМ. СКУРА НА ТВАРЫ І ШЫІ БЫЦЦАМ ПАЛІЭТЫЛЕНАВАЯ.


16 ВЕРАСНЯ. СЕЗОН СКОНЧЫЎСЯ. САД АМАЛЬ НЕ ПАТРАБУЕ ЎВАГІ. НУМАР ПЯЦЬ ЖАДАЕ ДАПАМАГЧЫ АБСТАВІЦЬ ЖЫЛЛЁ СУПРАЦОЎНІКАЎ.
ПРЫЙДЗЕЦЦА ПЕРАКАНАЦЬ ПРАТЭРА— ЁН УСЁ ЯШЧЭ РАЗ'ЮШАНЫ З-ЗА ТАГО, ШТО НУМАР 5 ЗРАБІЎ З АМІЯЧНЫМІ УГНАЕННЯМІ.


ЁН РАСКЛАЎ ІХ КУПКАМІ Ў СЯБЕ Ў КАМЕРЫ, ВЫКЛУЎ НЕЙКУЮ ГЕАМЕТРЫЧНУЮ ФІГУРУ І ГАДЗІНАМІ СЯДЗІЦЬ Ў ЦЭНТРЫ. СМУРОД АД АМІЯКУ НЕВЫНОСНЫ.


24 ВЕРАСНЯ. ПРАТЭРА ЗЛАВАЎСЯ НА МЯНЕ З-ЗА 14 ГАЛОНАЎ РАСТВАРАЛЬНІКА, ЯКІ ЗАМОВІЎ #5. ПРЫКЛАДНА ПАЛОВУ ЁН РАСПЛЮХАЎ ПА КАМЕРЫ. ПРАТЭРА ВАРОЧАЕ НОС.
АРНАМЕНТ З СУМЕСІ РАСТВАРАЛЬНІКА І АМІЯКУ Ў КАМЕРЫ #5 СТАНОВІЦЦА БОЛЬШ ВЫКРУТАСІСТЫМ. ЦІКАВА, ДА ЧАГО ГЭТА ДОЙДЗЕ. МАЖЛІВА НЕЙКІ НОВЫ СІНДРОМ.


5 ЛІСТАПАДА. ЯГО КАМЕРА ЗАВАЛЕНА ЎСЯЛЯКІМ ХЛАМАМ. АМІЯКАМ СМЯРДЗІЦЬ НЯСЦЕРПНА. ЧАМУСЬЦІ ПАХНЕ БАСЕЙНАМ. ТОЛЬКІ БОГ ВЕДАЕ, АДКУЛЬ УЗЯЎСЯ ГЭТЫ ПАХ.
Я ЦАЛКАМ УПЭЎНЕНА Ў ТЫМ, ШТО ДЛЯ #5 УСЁ ГЭТА МАЕ СЭНС. Я НАВАТ НЕ СУМНЯВАЮСЯ.


НАСТУПНЫ ЗАПІС, ЯКІ Я ПРАЧЫТАЮ, БУДЗЕ АД 24 СНЕЖНЯ 1993 ГОДА І АПІСВАЕ ПАДЗЕІ МІНУЛАГА ДНЯ.
ЁН ПАЧЫНАЕЦЦА СА СЛОЎ: " ЁН ГЛЯДЗЕЎ НА", АЛЕ ЯНЫ ПЕРАКРЭСЛЕНЫ. ПОТЫМ НАПІСАНА: "НЕ, НЕ МАГУ ПІСАЦЬ АБ ГЭТЫМ, НЕ МАГУ..." НЕКАЛЬКІ СТРОК ПРАПУШЧАНА.


ПРАЦЯГ НАПІСАНЫ ЧАРНІЛАМІ ДРУГОГА КОЛЕРУ.


Я БЫЛА НА ЛЯТУЧЦЫ.А ПАЛОВЕ АДЗІНАЦЦАТАЙ МЫ ПАЧУЛІ ПЕРШЫ ВЫБУХ.
ПАБЕГЛІ ДА ДЗВЯРЭЙ, КАБ ПАГЛЯДЗЕЦЬ. МНЕ ПАШАНЦАВАЛА, ШТО Я ЗАМАРУДЗІЛАСЯ.


ТЫЯ, ХТО БЯЖАЎ НАПЕРАДЗЕ, ПАТРАПІЛІ Ў ВОБЛАКА ГАЗУ. ГЭТА БЫЛО ЖАХЛІВА.


АЦАЛЕЛЫЯ ВЫСКАЧЫЛІ ПРАЗ ЗАДНІЯ ДЗВЕРЫ, ДАЛЕЙ АД ГАЗУ. ПАЎСЮЛЬ КРЫКІ.


МУЖЧЫНЫ КРЫЧАЛІ. НЕНАВІДЖУ, КАЛІ КРЫЧАЦЬ МУЖЧЫНЫ.


У ЦЭНТРЫ ЛАГЕРА ЎСЁ ПАЛАЛА. ПАКУЛЬ МЫ СПРАБАВАЛІ ЗРАЗУМЕЦЬ, ШТО АДБЫВАЕЦЦА, УЗАРВАЛІСЯ ПЕЧЫ.


Я ПАБЕГЛА. ЛЮДЗІ НАВОКАЛ ТАКСАМА БЕГЛІ ХТО КУДЫ.


ЧАЛАВЕК З ПЯТАЙ КАМЕРЫ. ЁН ЖАДАЎ ЗБЕГЧЫ АДСЮЛЬ. ГЭТА ЁН УЗАРВАЎ, ЁН ЗАБІЎ...


ЦІ МАГЛА Я ЗДАГАДАЦЦА? АМІЯК, РАСТВАРАЛЬНІК І ІНШАЕ. ЁН ВЫКАРЫСТОЎВАЎ УСЁ ГЭТА.


ГАРЧЫЧНЫ ГАЗ.


... ДЫ НАПАЛМ.


Я ПАБАЧЫЛА ЯГО НА ДВАРЫ, НА ФОНЕ АГНЮ. ЁН БЫЎ АГОЛЕНЫ.


ЕН ГЛЯДЗЕЎ НА МЯНЕ.


БЫЦЦАМ Я КАЗЯЎКА, БОЖУХНА. БЫЦЦАМ Я БРУД, ПРЫЛІПЛЫ ДА ПАДЭШВЫ.
ЁН ГЛЯДЗЕЎ НА МЯНЕ.

ЁН СЫШОЎ. ЛАГЕР ЗАЧЫНЯЮЦЬ. НІЯКІХ РАЗМОЎ ПРА ЗДАРЭННЕ. НІХТО НЕ ВЕДАЕ, ДЗЕ ЁН.

НАСТУПНЫ ЗАПІС ЗРОБЛЕНЫ ТОЛЬКІ ПРАЗ ШЭСЦЬ МЕСЯЦАЎ, КАЛІ ЛЕКАР САРЫДЖ КРЫХУ АДПАЧЫЛА І ПЕРАЕХАЛА Ў ЛОНДАН.

ГІСТОРЫЯ СКОНЧАНА.

НА МОЙ ПОГЛЯД, ГЭТА ТОЛЬКІ ПАЧАТАК. ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З ЧАЛАВЕКАМ З КАМЕРЫ НУМАР ПЯЦЬ? ШТО ЁН РАБІЎ ЧАТЫРЫ ГАДЫ, ПАСЛЯ ТАГО ЯК УЦЁК З ЛАРКХІЛУ?

ЯКІМ ЧЫНАМ ЁН ПЕРАТВАРЫЎСЯ Ў V?

МАБЫЦЬ СПАЧАТКУ ЁН РЫХТАВАЎ ПЛАЦДАРМ ДЛЯ ВАЕНЫХ ДЗЕЯННЯЎ. СТВАРЫЎ САБЕ НЕЙКУЮ БАЗУ.

ALE МЫ ВЕДАЕМ, ШТО ЁН ЗАЙМАЎСЯ НЕ ТОЛЬКІ ГЭТЫМ. І ГЭТА САПРАЎДЫ ЖАХЛІВА.

У ПЕРЫЯД З 1993 ПА 1997 КАЛЯ САРАКА ЧАЛАВЕК, ПРАЦАВАЎШЫХ РАНЕЙ У ЛАРКХІЛЕ, ЗАГІНУЛІ,ЯК ЛІЧЫЛАСЯ, Ў НЯШЧАСНЫХ ВЫПАДКАХ.
У ВЫНІКУ ЖЫВЫХ ЗАСТАЛОСЯ ТОЛЬКІ ТРЫ ЧАЛАВЕКА.

ГЭТЫХ ТРАІХ ЁН ПАКІНУЎ НА ДЭСЭРТ.

ЁН ВЫКРАЎ ШЭФА ЛАГЕРА Л'ЮІСА ПРАТЭРА, ЯКІ ВЫБРАЎ ЯГО Ў ЯКАСЦІ ПАДДАСЛЕДНАГА ДЛЯ ВЫПРАБАВАННЯ РЭЧЫВА #5, З-ЗА ЯКОГА ЁН ЗВАР'ЯЦЕЎ.

ЗАРАЗ ПРАТЭРА ЗГУБІЎ РОЗУМ І ПРЫЗНАНЫ НЕВЫЛЕЧНЫМ.

ЁН НАВЕДАЎ БІСКУПА ЛІЛЕМЭНА І ПРЫМУСІЎ ПРАГЛЫНУЦЬ АТРУЧАНУЮ АБЛАТКУ. ЖАХЛІВАЯ СМЕРЦЬ ДЛЯ СЛУЖКІ ЦАРКВЫ.

ВАМ ЗДАЕЦЦА, ШТО У ГЭТЫМ ЁСЦЬ НЕЙКАЯ ЧАРОЎНАСЦЬ? ГЭТКІ ШЫБЕНІЦКІ ГУМАР. МНЕ ВОСЬ НЕ ЗДАЕЦЦА, ВАМ, СПАДЗЯЮСЯ, ТАКСАМА...

І НАРЭШЦЕ ЛЕКАР ДЭЛІЯ САРЫДЖ,ЯКУЮ V НАВЕДАЎ СЁННЯ, ВА ЧАЦВЁРТЫЯ ЎГОДКІ ЎЦЁКАЎ З ЛАРКХІЛУ. Я ВЕДАЎ ЯЕ ЯК ДОБРУЮ ЖАНЧЫНУ...
ПОТЫМ Я ПРАЧЫТАЎ ЯЕ ДЗЁННІК,
І...

НЕ ВЕДАЮ, Я НЕ ВЕДАЮ. ЯЕ ЎЖО НЯМА.


ЯЕ І ЎСІХ, ХТО ПРАЦАВАЎ У ЛАРКХІЛЕ. УСІХ, ХТО Б МОГ АПАЗНАЦЬ ЯГО.
Я БАЧУ ДВА МАГЧЫМЫХ МАТЫВА ЯГО ДЗЕЯННЯЎ.


ПЕРШЫ – ГЭТА ПОМСТА. ЁН БЯЖЫЦЬ З ЛАРКХІЛУ І ЖАДАЕ ВЯРНУЦЬ АБАВЯЗАК СВАІМ КАТАМ. ТАДЫ ВЫБУХ ПАРЛАМЕНТА І ЎСЁ АСТАТНЯЕ – ПРОСТА ДЫМАВАЯ ЗАВЕСА.
УСЁ ГЭТА ТОЛЬКІ ДЗЕЛЯ ВЫДАТНА ПАДРЫХТАВАНАЙ ВЕНДЭТЫ.


ЯК НІ ПАРАДАКСАЛЬНА, ГЭТА ТЛУМАЧЭННЕ – САМАЕ АБНАДЗЕЙЛІВАЕ.
ТАМУ ШТО ЯНО АЗНАЧАЕ, ШТО ЁН ДАСЯГНУЎ СВАЁЙ МЭТЫ. УСЁ СКОНЧАНА.


ДРУГІ МАТЫЎ ЗНАЧНА ЖАХЛІВЕЙ. ЯК Я ЎЖО КАЗАЎ УСЕ, ХТО МОГ АПАЗНАЦЬ ЯГО, МЁРТВЫЯ.
ШТО КАЛІ ЁН ПРОСТА РАСЧЫШЧАЎ САБЕ ШЛЯХ?


ШТО КАЛІ ЁН ЗАПЛАНАВАЎ ШТОСЬЦІ ЯШЧЭ?


ДЗЁННІК, ЯКІ МЫ ЗНАЙШЛІ... ЁН ЛЯЖАЎ НА САМЫМ БАЧНЫМ МЕСЦЫ. МЫ НАВАТ ЯГО НЕ ШУКАЛІ.


Я ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО ЁН САМ ЯГО ТУТ ПАКІНУЎ. ЁН ЖАДАЎ, КАБ МЫ ЗНАЙШЛІ ГЭТЫ ДЗЁННІК. ЁН ЖАДАЎ, КАБ МЫ ДАВЕДАЛІСЯ ПРА ЯГО ГІСТОРЫЮ.
АЛЕ... І ГЭТА САМАЕ ЦІКАВАЕ... ЁН НЕ ЖАДАЎ, КАБ МЫ ДАВЕДАЛІСЯ ПРА ЎСЁ.


У ЗНОЙДЗЕННЫМ ДЗЁННІКУ НЕКАТОРЫХ СТАРОНАК НЕ ХАПАЕ. І ІХ ВЫРВАЛА НЕ ЛЕКАР ДЭЛІЯ САРЫДЖ.


ШТО БЫЛО НА ГЭТЫХ СТАРОНКАХ? ЯГО ІМЯ? УЗРОСТ? ЗГАДВАННІ, ШТО ЁН БЫЎ ГАБРЭЕМ, ГОМАСЭКСУАЛІСТАМ, БЕЛЫМ ЦІ ЧОРНЫМ?
КАЛІ ЯГО ВЕНДЭТА САПРАЎДЫ СКОНЧАНА...
ЯКАЯ ЯМУ РОЗНІЦА, ВЕДАЕМ МЫ ЯГО ГІСТОРЫЮ ЦІ НЕ?
ЁН ГУЛЯЕ Ў НЕШТА З НАМІ. У ГУЛЬНЮ, ТАКУЮ Ж ВЫНТАНЧАНУЮ, ЯК АРНАМЕНТ НА ПАДЛОЗЕ КАМЕРЫ НУМАР ПЯЦЬ. І ВЫТАНЧАНУЮ, І ВАР'ЯЦКУЮ АДНАЧАСОВА...

І ГЭТАК ЖА СМЯРОТНУЮ...

РАЗУМЕЕЦЕ, КАЛІ ДАВОДЗІЦЦА СУТЫКАЦЦА З ЧЫМСЦІ ПАДОБНЫМ... АДНАЧАСОВА ДАСЦІПНЫМ І ІРАЦЫЯНАЛЬНЫМ... ГЭТА ЯК ГУЛЯЦЬ ПА ЗЫБКАМУ ПЯСКУ. ВАС ЗАСМОКТВАЕ...

ЛЁС НЕ МАЕ ЗВЕСТАК НАКОНТ ЛАРКХІЛУ. У НАС НАОГУЛ НЯМА ДАДЗЕНЫХ НАКОНТ ЛАГЕРАЎ ДЛЯ ПЕРАМЕШЧАНЫХ АСОБ. МЯРКУЮ, ГЭТА БЫЛА ЗАСЦЯРОГА.

З ДРУГОГА БОКУ... НАКОЛЬКІ Я РАЗУМЕЮ, ДЗЁННІК МОЖА АПЫНУЦЦА ПАДРОБКАЙ. МАГЧЫМА, ШТО ЯГО З ПАЧАТКУ ДА КАНЦА НАПІСАЎ ГЭТАК ЗВАНЫ V.

ЁН МОГ НАОГУЛ НІКОЛІ НЕ БЫВАЦЬ У ЛАРКХІЛЕ. РАЗУМЕЕЦЕ? ГЭТА МОЖА БЫЦЬ ЯШЧЭ АДНА ДЫМАВАЯ ЗАВЕСА,ІЛЖЫВЫ СЛЕД...

МІСТЭР ФІНЧ, НЯЎЖО ВЫ ДУМАЕЦЕ, Я ПАВЕРУ, ШТО ХТОСЬЦІ ЗДОЛЬНЫ ЗАБІЦЬ ПЯЦЬДЗЕСЯТ ЧАЛАВЕК ТОЛЬКІ ДЗЕЛЯ ТАГО, КАБ ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ САБЕ ЛЕГЕНДУ?

НАВАТ ДУМАЦЬ ПРА ГЭТА...

... ВАР'ЯЦТВА.

М-ДА...

ЗРАЗУМЕЛА.

МІСТЭР ФІНЧ, Я ДУМАЮ ГЭТА ЎСЁ. АНГЛІЯ ВЫШЭЙ ЗА ЎСЁ.

І,ДАРЭЧЫ, МІСТЭР ФІНЧ...

ТАК, ЛІДАР?

З КАЛЯДАМІ!



DC COMICS INC.

PRESIDENT
AND PUBLISHER
JENETTE KAHN

V.P.-EXECUTIVE
EDITOR
DICK GIORDANO

EDITOR
KAREN BERGER

ASST. EDITOR
ART YOUNG

ART DIRECTOR
RICHARD BRUNING



MGR.-EDITORIAL ADMIN.
TERRI CUNNINGHAM

MGR.-EDITORIAL COORD.
PAT BASTIENNE

EXECUTIVE V.P.
PAUL LEVITZ

PRODUCTION
DIRECTOR
BOB ROZAKIS

V.P.-CREATIVE
DIRECTOR
JOE ORLANDO

V.P.-SALES
& MARKETING
BRUCE BRISTOW

CIRCULATION
DIRECTOR
MATT RAGONE

CONTROLLER
PAT CALDON

